СОНЦА:

Усход, захад, даўжыня дня:

| | |
|---|---|
| Мінск | —4.36, 21.44, 17.08; |
| Віцебск | —4.18, 21.43, 17.25; |
| Магілёў | —4.26, 21.33, 17.07; |
| Гомель | —4.32, 21.22, 16.50; |
| Гродна | —4.53, 21.58, 17.05; |
| Брэст | —5.03, 21.49, 16.46. |

МЕСЯЦ:

Поўня 15 чэрвеня.

ІМЯНІНЫ:

Вісарыёна, Ларыёна, Іона, Фёклы;
Герваза, Пратаза.

# ЗВЯЗДА

19 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
пятніца, № 122 [21900]

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


## РОЗГАЛАС

### І ВАЕННЫЯ МЯНЯЮЦЬ ШЫЛЬДЫ

**МІНСК (А. Кулеш). Пастановай Савета Міністраў Беларусі «Аб падрыхтоўцы афіцэрскіх кадраў для Рэспублікі Беларусь» намечана пераўтварыць Мінскае вышэйшае інжынернае зенітна-ракетнае вучылішча процілаветранай абароны ў Мінскае вышэйшае ваеннае інжынернае вучылішча.**

Перад вядучай ваеннай навучальнай установай рэспублікі пастаўлена задача падрыхтоўкі малодшага афіцэрскага саставу па інжынерна-тэхнічных спецыяльнасцях для ўсіх відаў і родаў войск Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Амаль за 40-гадовы перыяд гісторыі ў вучылішчы створана сучасная вучэбна-матэрыяльная база, падрыхтаваны тысячы ваенных інжынераў, 25 дактароў і больш за 400 кандыдатаў навук, сфарміраваны добры прафесарска - выкладчыцкі калектыў. Аўтарытэт ваеннай ВНУ высокі нават далёка за межамі рэспублікі.

Для шырокай грамадскасці, многіх юнакоў, што здаюць у гэтыя дні выпускныя экзамены ў сярэдніх навучальных установах і мараць прысвяціць сваё жыццё высакароднай справе аховы нашай беларускай Айчыны — стаць кадравым афіцэрам, — было б цікава даведацца, што сабой уяўляе сёння вучылішча, якія перспектывы яго развіцця на будучыню.

20 чэрвеня з 11.00 упершыню ў структуры Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь у Мінскім ВВІВ будуць праводзіцца цырыманіяльныя мерапрыемствы з нагоды выпуску афіцэраў-інжынераў.

Для ўдзелу ва ўрачыстасці запрошаны прадстаўнікі вышэйшых і мясцовых органаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь, народныя дэпутаты, ветэраны Узброеных Сіл, свяшчэннаслужыцелі, бацькі і сваякі выпускнікоў.

**Праезд ад станцыі метро «Усход» аўтобусамі № 269, 15 да прыпынку «9 км Маскоўскай шашы» (даведкі па тэлефоне 69-42-36).**



## Давайце жыць багата!

Як паведамлялася ўжо, 17 чэрвеня ў Гродзенскай вобласці пабываў Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч. У першай палавіне дня ён сустрэўся з работнікамі народнай адукацыі і культуры вобласці.

Другую палавіну дня С. Шушкевіч прысвяціў паездцы па вобласці. Пачалася яна з наведвання фермерскіх гаспадарак, размешчаных у неспрыяльнай па глебавых умовах Сапоцкінскай зоне. У калгасе «Чырвоны барацьбіт» кіраўнік парламента сустрэўся з фермерам Сігізмундам Валуевічам. Да цяперашняй вясны той працаваў вядучым спецыялістам адной з навуковых устаноў. І вось — рэзкі паварот у лёсе—узяўся вырошчваць на 25 гектарах бульбу. Ды не простую —элітную, галандскіх сартоў.

— Толькі б машын пабольш, —выказаў пажаданне фермер. Недахват тэхнікі, яе дарагоўля — агульная бяда такіх гаспадарак. На 25 фермераў — столькі іх цяпер у раёне—прыпадае менш дзесятка трактараў.

— Да наступнай вясны справа зменіцца да лепшага,—абяцае старшыня Гродзенскага райвыканкома Раман Алізаровіч. — Частку тэхнікі дакупім, частку выдзеляць ваенныя.

Другое па ліку «фермерскае» лета — у Мечыслава Кухты, сядзіба якога патанае ў зеляніне на ўскраіне вёскі Белічаны. «Адзеты» ў асфальт дворык, акуратны дом, такія ж пабудовы, павеці. Пад імі трактар, бульбакапалка, саджалка, якія паблісквають фарбай. А пачынаў і ён нялёгка. Затое восеню сабраў нядрэнны ўраджай з 7 гектараў і зімой быў з кармамі для 4 кароў, 7 свінняў, маладняку. Нямала мяса, малака, іншых прадуктаў з падворку прададзена дзяржаве. І хоць фермер скардзіцца на дарагоўлю, недахват сяго-таго, ён задаволены, што пачаў жыццё як бы па-новаму. Разам з гаспадыняй, дзецьмі і ўнучкамі Мечыслаў Станіслававіч запрашае гасцей пакаштаваць што-небудзь з прыпасаў, ад якіх ледзь ці не прагінаецца накрыты прама на двары стол.

Наступная сустрэча: з фермерам Эдуардам Генечкам з калгаса «Беларусь». У яго гаспадарцы, якой таксама другі год, — 6 гектараў зямлі, многа жыўнасці.

У калгасе «Кастрычнік» С. Шушкевіч агледзеў свінакомплекс, каўбасны цэх, цяпліцу для вырошчвання агароднiны, аранжарэю, будуемае прама пасярэдзіне вялікага маладога саду фруктасховішча на 2.300 тон, сумеснае беларуска-аўстрыйскае прадпрыемства па вырабу цукерак. На пытанне, за якія сродкі ўсё гэта пабудавана, старшыня калгаса Віктар Крамко адказаў, што інвалюту атрымліваюць за пастаўкі ласункаў, пародзістых коней. На закупку толькі каўбаснага цэха выдаткавана 22 тысячы долараў.

— З такога калгаса наўрад ці хто захоча выйсці, — сказаў С. Шушкевіч у гутарцы з журналістамі. — Аднак і фермерскія гаспадаркі— у гэтым сёння мы таксама пераканаліся— не лыкам шытыя. У спалучэнні розных форм уласнасці — будучыня нашай вёскі.

У завяршэнне паездкі Старшыня Вярхоўнага Савета пазнаёміўся з работай буйнога цэха сантэхнічнага абсталявання — філіяла міжкалгаснага цэментнага завода ў Ваўкавыскім раёне. З мясцовай сыравіны тут выпускаюць ванны, ракавіны і іншыя дэфіцытныя вырабы для 9 тысяч кватэр у год. Абсталяванне коштам 600 тысяч долараў, заробленых завадчанамі, закуплена ў амерыканскай фірмы «Грубер» і акупіцца менш чым за год.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, кар. БЕЛТА.**

### НЕБЯСПЕЧНЫ ЎМЕЛЕЦ

ЖЛОБІН. Хоць у нашай рэспубліцы агульнапалітычная сітуацыя не абвастрылася да такой ступені, як у некаторых іншых краінах СНД, але, аказваецца, і тут хто-ніхто ўзбройваецца. Так, рабочы сталеплавільнага цэха Беларускага металургічнага завода М. вырабіў два пісталеты. Адзін — сістэмы «наган», другі — «Макарава». Яны баяздольныя і прыгодныя для стральбы з будаўнічых патронаў. Падумаўшы, рабочы добраахвотна здаў гэтую зброю ў міліцыю.

Можна было б толькі парадавацца за ўмельца: своечасова прыняў правільнае рашэнне. Але ж непакоіць іншае. Пісталеты былі выраблены на заводзе, на рабочым месцы. Калі на прадпрыемстве такая бесканттрольнасць, дык дзе гарантыя таго, што тут не могуць вырабіць, скажам, кулямёт і вынесці яго па частках за прахадную?

### Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб назначэнні СЯНЬКО У. Л. Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча і прысваенні яму дыпламатычнага рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла**

1. Назначыць Сянько Уладзіміра Лявонавіча Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча.
2. Прысвоіць Сянько Уладзіміру Лявонавічу дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

3 чэрвеня 1992 г. г. Мінск.

### Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб назначэнні САДОЎСКАГА П. В. Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Федэратыўнай Рэспубліцы Германія і прысваенні яму дыпламатычнага рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла**

1. Назначыць Садоўскага Пятра Вікенцевіча Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Федэратыўнай Рэспубліцы Германія.
2. Прысвоіць Садоўскаму Пятру Вікенцевічу дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

3 чэрвеня 1992 г. г. Мінск.

НАШ КАМЕНТАРЫЙ

## А «КАРЗІНКА»— НА ЖАЛЬ, НЕ АБРУС-САМАБОР...

Аднак уедлівасць нашага чыноўнага люду іншы раз проста ашаламляльная! Гэта ж трэба так падлічыць (на якім камп'ютэры?), вызначыць, што жанчыне-пенсіянерцы, згодна з мінімальным месячным спажывецкім бюджэтам (гл. пастанову Дзяржкампрацы рэспублікі ва ўчарашніх газетах), трэба для жыцця на адзін рубель менш (усяго), чым мужчыну-пенсіянеру! Нагадаю адпаведныя спажывецкія бюджэты: для жанчыны-пенсіянеркі — 1.103 рублі, мужчыны-пенсіянера — 1.104. Выходзіць, рубель мужчыну-пенсіянеру на піва? Але чаму толькі мужчыну? Яўная дыскрымінацыя! Зрэшты, за гэты рубель нават і куфля з-пад піва не дадуць панюхаць, ды яно, напэўна, і не ўваходзіць у асартымент «спажывецкай карзінкі» — не дараслі дастаткам. Хіба на запалкі? Якраз. Калі прытрымлівацца талонна-цыгарэтнай дыеты, на месяц можа хапіць... Навуковасць на мяжы фантастыкі!..

Сумна робіцца, калі знаёмішся з гэтымі лічбамі. Сумна ў першую чаргу ад нашай беднасці, але тут хоць разумееш: так ужо гаспадарым, так выкарыстоўваем тое, што маем. А яшчэ больш сумна ад гэткай навукападобнасці, падобных падлікаў з дакладнасцю да абсурднага! Ну хіба не зразумела, што тут якраз не той выпадак, калі трэба вылічваць з дакладнасцю да кожнага праглынутага кавалачка хлеба? Няхай нават не асобна ўзятай, а абстрактнай, сярэднестатыстычнай жанчынай. Вось лепш бы з такой жа абсалютнай дакладнасцю падлічыць, колькі бяздумна трацім, выкідваем, закопваем... Шкада тых сіл, якія затрачаны на вылічэнне гэтага адзінага «пераважнага» рубля для муж-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### ЧАЭС-ІНФАРМ

**Паведамляе аддзел знешніх сувязей Чарнобыльскай АЭС**

Інфармацыя на 8 гадзін раніцы 18 чэрвеня. На першым энергаблоку ў асноўным завершаны планавы капітальны рамонт. Блок у чаканні настройкі запорна-рэгулюючых клапанаў. Другі энергаблок у рэжыме вываду з эксплуатацыі. Трэці — на планавым капітальным рамонце. Стан канструкцый аб'ектаў укрыцця адпавядае нормам, устаноўленым пры яго будаўніцтве. Парушэнняў радыяцыйнага стану, межаў і нормаў бяспечнай эксплуатацыі няма.

## Беларускі рубель адчувае сябе нядрэнна

**«Фанцікі», «звярыныя», «зайчыкі» — як толькі не называе народ разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі! У прэсе час ад часу з'яўляюцца карыкатуры: рабочы ў спяцоўцы стаіць ля касы і трымае зайца за вушы (трэба думаць — выдалі зарплату). Альбо ў магазіне ашаломленаму пакупніку даюць рэшту даўгавухім звяркам. Малюнкі добразычлівыя, але ўсяляк падкрэсліваюць несур'ёзнасць новаўвядзення.**

**А як на самай справе? Ці сур'ёзна працуюць у эканоміцы рэспублікі новыя «грошы»? З моманту іх з'ўлення прайшоў амаль месяц, і ўжо можна гаварыць пра нейкія вынікі.**

**Каб праясніць гэтае пытанне, карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да начальніка ўпраўлення арганізацыі грашовага абарачэння Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Тамары КАРЖАНЕЎСКАЙ.**

— Вынікі толькі станоўчыя. Пры хранічнай нястачы рублёў людзі атрымліваюць зарплату, пенсіі, вядуцца наяўныя разлікі. Разліковыя білеты ў значнай ступені знялі сацыяльную напружанасць, выкліканую недахватам рублёў у абарачэнні. У выручцы гандлю доля разліковых білетаў на сёння дасягнула 30 працэнтаў.

**— Ці ўсе без выключэння гандлёвыя прадпрыемствы на тэрыторыі рэспублікі абавязаны прымаць разліковыя білеты? Я пытаюся пра гэта, бо сустракаюцца выпадкі, калі гэта рабіць адмаўляюцца, спасылаючыся на неабходнасць наступных разлікаў у наяўных грашах з партнёрамі за межамі Беларусі.**

— Разліковыя білеты павінны прымаць усе. Ды, зрэшты, так яно ўжо і ёсць—іх бяруць нават на рынках. Выпадкаў, адмовы ўсё менш. Мы збіраліся спачатку ўводзіць нейкія штрафныя санкцыі за дыскрымінацыю білетаў, але ўбачылі, што яны непатрэбныя—усё ідзе нармальна.

**— Ходзяць упартыя чуткі, быццам 1 ліпеня з'явіцца пералік тавараў, якія можна будзе набыць выключна за нашых «зайцаў».**

— Размовы пра гэта ва ўрадзе вяліся, але такі спіс так і не быў распрацаваны, і ці будзе — пакуль невядома.

**— Калі разліковыя білеты выконваюць усе функцыі нармальных грошай, яны павінны абменьвацца на валюту. Ці можна ў якой-небудзь з абменных кантор купіць на іх, скажам, долары?**

— Можна, чаму не.

**— Пад час увядзення ў абарачэнне разліковых білетаў паведамлялася, што іх можна класці ў Ашчадны банк. Але на асобныя рахункі. Чаму на асобныя? Гэта, пагадзіцеся, насцярожвае.**

— Можна мець і адзін рахунак — агульны. Праўда, банкаўскім работнікам усё роўна прыйдзецца падлічваць асобна рублі і білеты( а як інакш?). А пакласці рублі і зняць білеты і наадварот можна.

**— Гэты маштаб — 1:10 быў абраны, каб адразу паставіць білет над рублём?**

— Зусім не. Проста папера таксама грошай каштуе, і яе варта эканоміць. А лёсы рубля і разліковага білета ў адзінай рублёвай зоне ўзаемазвязаныя. Пакуль трымаецца рубель, добра сябе адчувае і наш білет.

**— Рублёў не хапае па-ранейшаму. Ці не адчуваеце вы ўжо дэфіцыту «зайцаў»?**

— Пакуль усё нармальна. Фабрыка, якая іх друкуе, укладваецца ў графік.

**— Што ж, здароўя нашаму «зайцу»!**

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

## РАДЫЁ ФАКТ

Беларусь і Украіна першымі з дзяржаў Садружнасці пачалі рэалізацыю падпісанага ў Ташкенце пагаднення аб узаемных фінансавых разліках паміж краінамі—членамі СНД. У рэспубліку павінна паступіць каля дзесяці мільярдаў рублёў — прыблізна такую суму складае доўг украінскіх прадпрыемстваў. Аднак, як адзначыў галоўны банкір рэспублікі, Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, паранейшаму пад сумненнем знаходзяцца ўзаемныя разлікі з іншымі рэспублікамі.

***

**У трэцім квартале гэтага года мяркуецца надрукаваць ад 800 мільярдаў да аднаго трыльёна наяўных грошай, паведаміў адзін з кіраўнікоў Цэнтральнага банка Расіі Аляксандр Зінчанка. Нягледзячы на нарошчванне выпуску, наяўных грошай катастрафічна не хапае. На сённяшні дзень іх недахват дасягнуў 150 мільярдаў рублёў. Сітуацыя з наяўнасцю магчыма некалькі палепшыцца ў жніўні, калі будзе наладжаны выпуск пяцітысячных купюр. Не выключаны выпуск у абарот 25-тысячных і 50-тысячных залатых манет.**

***

«Цэны прыведзены ў адпаведнасць з дагаворам з Расіяй»,—так пракаменціраваў апошняе павышэнне розпічных цэн на нафтапрадукты і газ дырэктар Дэпартамента цэн Рэспублікі Беларусь Уладзімір Міхасёў. Ён адзначыў, што сёння ўзровень цэн у нашай рэспубліцы, скажам, на бензін, ніжэйшы, чым нават у Расіі. І значна ніжэйшы, чым у краінах Балтыі. Тое ж датычыць і мазуту, асноўнага паліва для электрастанцый.

***

**20-га чэрвеня па ініцыятыве беларускай сялянскай партыі ў Мінску склікаецца другі рэспубліканскі з'езд беззямельных. Старшыня партыі Яўген Лугін у інтэрв'ю карэспандэнту «Радыёфакта» сказаў, што на з'ездзе будзе разгледжана ажыццяўленне зямельнай рэформы, якая пакуль што ў Беларусі буксуе. Сялянская партыя мае намер разам з іншымі партыямі падрыхтаваць заяву на адрас Вярхоўнага Савета па хутчэйшаму вырашэнню гэтага пытання.**

***

У Мінску праходзіць кансультацыйная сустрэча, у якой прымаюць удзел замежныя прадстаўнікі і ваенныя эксперты НАТО. Мэта сустрэчы — азнаямленне з рэспубліканскай канцэпцыяй бяспекі, перспектывы развіцця прамых узаемаадносін Беларусі з НАТО.

***

**Да 600 аўтамабіляў праходзіць зараз штодзённа праз КПП «Брузгі» каля Гродна. Праезд да гэтага часу адкрыты толькі для службовых аўтамабіляў. З 1-га ліпеня тут будуць кругласутачна прапускаць і грузавыя аўтамабілі. Новы КПП у Берастаўіцы пакуль гатовы толькі на 90 працэнтаў.**

***

Зацверджаны сумы ўзнагарод пераможцам Алімпійскіх гульняў, чэмпіянатаў свету і Еўропы, а таксама іх трэнерам. Так, за першае месца на Алімпійскіх гульнях беларускі спартсмен атрымае 100 тысяч рублёў. А прызёры—адпаведна 70 і 60 тысяч. Чэмпіёнаў свету чакаюць 70 тысяч, а чэмпіёнаў Еўропы—50 тысяч рублёў. Трэнеры атрымаюць такія ж сумы, што і пераможцы ці прызёры спаборніцтваў.




## Эканомім на харчаванні...

**Відавочныя прыкметы харчовага крызісу мы назіраем ужо некалькі гадоў: тыя ці іншыя прадукты — ад мяса і садавіны да хлеба і солі — перыядычна знікаюць з паліц магазінаў. Цяпер жа, з другога боку, пасля лібералізацыі цэн да старых праблем дабавілася новая: некаторыя віды прадуктаў сталі проста не па кішэні значнай частцы насельніцтва.**

**Некалькі парад па харчаванню ва ўмовах перманентнага харчовага крызісу дае загадчык лабараторыі Інстытута харчавання Генадзь БОНДАРАЎ.**

Існуе некалькі хітрасцей, якія даюць магчымасць перажыць харчовы крызіс з мінімальнымі стратамі для здароўя. У рацыёне павінны прысутнічаць усе харчовыя групы, аднак унутры іх прадукты можна замяняць адзін адным. Не заўсёды больш каштоўныя ў харчовых адносінах прадукты каштуюць даражэй, і наадварот.

І гэтым можна цудоўна карыстацца пры складанні рацыёну.

Напрыклад, навошта купляць вараную каўбасу, гэтыя ж грошы лепш аддаць на птушку: за тую ж суму вы атрымаеце значна больш пажыўных рэчываў.

Купляйце не далікатэсныя, а сыравінныя прадукты: мяса, малако, крупы. Усю іх перапрацоўку трэба перанесці на ўласную кухню. Гэта зойме больш часу, затое абыдзецца значна танней.

Чалавек можа атрымаць усе неабходныя яму вітаміны і мінеральныя элементы з пяці прадуктаў раслiннага паходжання: бульбы, капусты, морквы, буракоў і цыбулі. Самай некарыснай агароднінай з пункту гледжання пажыўнасці з'яўляюцца агуркі — 98 працэнтаў вады і ўсяго 2 працэнты сухіх рэчываў.

Наогул аб праблеме вітамінаў у сваім рацыёне лепш паклапаціцца летам.

Напрыклад, вітамінам С можна забяспечыць сябе на ўвесь год, калі своечасова назапасіць ягады, перацёртыя і засыпаныя цукрам.

Найбольш дарагая частка харчовай спажывецкай карзіны — мяса і мясапрадукты. Скарачэнне свайго меню многім прыходзіцца пачынаць менавіта з іх... Купляйце гарох, сою, бабы. Бялкі бабовых па сваёй структуры вельмі блізкія да бялкоў жывёльнага паходжання. Імі можна замяніць прыкладна пятую частку мяснога рацыёну.

А як выжыць, калі грошай не хапае ўжо амаль ні на што? Аснову рацыёну ў гэтым выпадку павінен складаць хлеб. У дзень яго трэба з'ядаць роўна кілаграм — гэта будзе 2.200 кілакалорый, 80 грамаў расліннага бялку і 680 грамаў вугляводаў. Потым не паленуйцеся пастаяць у чарзе — да хлеба трэба набыць паўтара літра малака. Гэта дасць вам яшчэ 900 кілакалорый і сутачную норму жывёльных бялкоў. Тлушч у неабходнай колькасці знаходзіцца ў 15—20 грамах маргарыну.

Звычайна цяжэй за ўсё забяспечыць сябе вітамінамі. Але для гэтага зусім не абавязкова ісці на рынак. Зайдзіце ў бліжэйшую аптэку і купіце ўпакоўку ундэвіту — 1—2 таблеткі забяспечаць сутачную патрэбнасць у вітамінах. Калі яго няма, добра і гексавіт. Такі рацыён дасць магчымасць пратрымацца да наступнай зарплаты.

Аднак злоўжываць ім не варта. Чалавеку працаздольнага ўзросту, не занятаму цяжкай фізічнай працай, у суткі патрабуецца 2.800—3.000 кілакалорый, ніжэй за ўзровень у 1.500 кілакалорый пачынаецца галаданне з незваротнымі фізіялагічнымі змяненнямі.

Таму эканоміць лепш усё ж на чым-небудзь іншым.

**Андрэй БАЙДУЖЫ, «Независимая газета».**

## У доме будзе цяплей

У разгары лета. Самы час падумаць пра рамонт кватэры. Сёння мы раскажам аб тым, як абліцаваць звычайнай керамічнай пліткай печ або грубку. Акрамя таго, што яна набудзе пры гэтым прывабны і багаты выгляд, у пакоі будзе цяплей: печ у абліцоўцы даўжэй трымае цяпло, а гэта амаль на трэць памяншае патрэбную колькасць паліва.

Тэхналагічны працэс абліцоўкі не вельмі складаны— зрабіць гэта зможа любы чалавек, які хоць бы раз трымаў у руках шпатэль і малаток.

Перш за ўсё здымаецца тынкоўка і агаляецца цагляная кладка. Затым на печы манціруецца арматура —яна ўяўляе сабой забітыя між цаглінамі штыры (укарочаныя да 60 мм цвікі з зыходнай даўжынёй 100 мм, завостраныя ў выглядзе іголкі на працягу 200 мм, гл. малюнак), аплеценыя мяккім стальным дротам таўшчынёй 1 мм такім чынам, каб утварылася свайго роду сетка.

Затым рыхтуецца раствор. Для яго патрэбен цэмент маркі 500 (1 частка), пясок (1 частка) і соль. Пасля замешвання раствору (цэменту, пяску і вады) у яго дабаўляецца кухонная соль з разліку 1 кг на вядро раствору. Па гушчыні раствор павінен быць як смятана.



Падрыхтаваны раствор наносіцца на тыльны бок пліткі, каб утварылася свайго роду піраміда (гл. малюнак), пасля чаго плітка прыціскаецца да паверхні печы з разлікам, каб таўшчыня слоя раствору наміж пліткай і цаглінай складала 15—20 мм.




У працэсе работы непазбежна паўстае праблема рэзкі плітак. Зрабіць гэта можна звычайным шкларэзам з наступнай даводкай на электратачыле пры вярчэнні наждачнага дыска з частатой 4.500—5.000 аб/мін. Улічыце таксама, што плітка, прызначаная для абліцоўкі, павінна быць вымачана ў вадзе і вытрымлівацца ў ёй у час работы.

ВАША ЗДАРОЎЕ

## Парушэнне цеплаабмену

**Многім людзям, не толькі хворым, але і здаровым, знаёмыя непрыемныя адчуванні холаду ў руках, нагах. Гэта звязана з парушэннем цеплаабмену ў вашым арганізме. Нескладаныя працэдуры, якія выконваюцца ў хатніх умовах, дапамогуць вам пазбавіцца ад такога роду дыскамфорту.**

Перш за ўсё трэба спыніцца на звычайнай праграме мерапрыемстваў, накіраваных на падтрыманне цеплаабмену ў найбольш частых выпадках яго парушэння, а менавіта: пры паніжаным балансе цяпла ў выніку звычайнага пераахаладжэння ног і рук.

**Падтрымлівайце нармальную тэмпературу памяшкання;**

**асабліва пазбягайце ступаць па халоднай падлозе** (выкарыстоўвайце цеплапаглынаючае пакрыццё: дываны, маленькія дыванкі для ног, а таксама ўцепленыя абутак і лямцавыя хатнія тапачкі);

**выкарыстоўвайце цёплую, але порыстую ніжнюю бялізну,** асабліва панчохі, пасцельная бялізна таксама павінна «дыхаць»;

**калі адначасова з ахаладжэннем ногі моцна пацеюць,** мяняйце на працягу дня панчохі, а таксама выкарыстоўвайце пры неабходнасці вусцілкі, здольныя ўбіраць вільгаць;

**ранішні туалет павінен быць такі:** сухі масаж шчоткай (уключаючы спіну), потым кантрасны душ, моцна расцерціся сухім ручніком ці кантраснае расціранне вільготнымі шчоткамі, затым — сухім ручніком. Халоднае апалосканне твару з моцным расціраннем ці халодныя абліванні твару. Такое ўздзеянне раздражняльнікамі на твар і спіну вельмі важнае, паколькі тут сканцэнтраваны нервовыя канчаткі, узбуджэнне якіх выклікае хімічнае цеплаўтварэнне;

**пры вельмі моцным ахаладжэнні ног** лепш за ўсё прымяніць нажную ванну з паступовым павышэннем тэмпературы вады на працягу 20 мін.;

**калі не ўдаецца захаваць цяпло на вуліцы,** можна пакласці ў кішэнь паліто невялікую грэлку;

**пры неабходнасці класці грэлку** ў ногі на ноч;

**імкніцеся больш рухацца** (штодзённая хадзьба мінімум 2—3 км, паходы).

**выкарыстоўвайце масажныя ролікі для ног,** напрыклад, седзячы перад тэлевізарам;

**на час падарожжа майце ў сваім багажы шарсцяныя рэчы** і гумавую грэлку;

**у цёплы час года ў канцы тыдня** імкніцеся выязджаць на прыроду. Вельмі карысныя паходы, пры выпадку— паветраныя ванны і хадзьба басанож. Калі дазваляюць вашы фізічныя даныя і сістэма кровазвароту, можна павысіць нагрузку ў канцы тыдня шляхам уключэння практыкаванняў на развіццё трываласці.

Для пажылых людзей і хворых шкодныя не толькі агульнае, але і мясцовыя пераахаладжэнні арганізма, асабліва ног, каленяў. Яны патрабуюць пільнай увагі: накладвайце грэлку з вільготным ухутваннем, зрабіце сабе шарсцяныя ці футравыя накаленнікі.

